# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 51 (115) 29 сьнежня 2000 г.-4 студзеня 2001 г. Кошт 50 руб.


## Разьвітаньне як надзея на сустрэчу



*... Гэтым нумарам газэты мы разьвітаемся з годам, што скончае свой бег праз два дні. Ён быў, гэты год, часам чарговага (здаецца, бясконцага) беларускага выпрабаваньня, якое выпадае ў нашым краі кожнаму пакаленьню. Справа гісторыі выносіць прысуд таму, зь якой адзнакай прайшлі сваю частку нацыянальнага шляху цяперашнія грамадзяне краіны – мы з вамі...*

*А справай газэты было сумленнае занатаваньне падзеяў і фактаў жыцьця. Гэты апэратыўны, а больш таго, неабыякавы летапіс часу, магчыма, не ва ўсім быў бездакорна дакладным і аб'ектыўным. Але ён быў шчырым, што ў нашых рэальных умовах каштуе нямала.*

*Асаблівa з улікам таго, што менавіта шчырасьці і сумленьня не стае паводзінам улады і, на жаль, значнай часткі грамадзтва. Адсюль, калі сказаць без глыбокадумных разважаньняў, амаль усе беларускія праблемы, хваробы й ня надта сьветлыя пэрспэктывы...*

*На парозе новага года, аднак, прынята разважаць пра здабыткі і спадзявацца на лепшае. Такая чалавечая прырода. Праўду сказаць, шмат што добрага адбылося ў сёлетнім жыцьці нават у маштабах краіны, не гаворачы пра асобныя прыватныя радасьці. Так заўсёды было, ёсьць і будзе. Але прафэсія "летапісцаў гісторыі" патрабуе адказнасьці за слова, якое надрукаванае і, магчыма, патраціць калісь на вочы далёкаму цяпер ад нас нашчадку. Хлусіць яму – няёмка і сорамна.*

*Год быў дрэнным. Беларусь (зразумела, улада, але ж дзе былі ўсе мы?..) зрабіла новыя небясьпечныя саступкі ў незалежнасьці краіны. Далей, чым была 5-6 год таму, адышла ад мэты адраджэньня нацыянальнай сьвядомасьці й культуры. Практычна канчаткова замарозіла эканамічныя рэформы. Зьнішчыла альбо загнала ў падпольле палітычныя і грамадзянскія свабоды. Выкрэсьліла зь сьвядомасьці суайчыньнікаў павагу да правоў чалавека...*

*Улада займалася і займаецца адным: захаваньнем сваёй улады на карысьць сябе ж самой. А народ уцякае ад гэтай улады ў свае штодзённыя клопаты і турботы, нават не задумваючыся аб тым, што ён – народ – ёсьць тут адзіным гаспадаром.*

*Усё будзе так як ёсьць цяпер, пакуль грамадзтва таго не зразумее. Шмат якія падзеі 2000 году сьведчаць пра тое, што разуменьне, шырокае і дзейснае, насьпявае. Але пакуль не прыйшло. Не настала. Не зьявілася ў сваім прывабным і пераканаўчым выглядзе.*

*Аднак адчайвацца і сумаваць з таго ня будзем. Мо й сапраўды новы год прынясе якія добрыя перамены. Мы працавалі дзеля іх увесь папярэдні год. Мы спадзяемся на працяг газэтнага існаваньня ў годзе, які надыходзіць. На сёньняшні дзень перакананасьці ў гэтым, па шчыраму вельмі значных прычынаў, няма. Але надзея ёсьць.*

*З Новым годам, сябры і паплечнікі!*

*З новымі надзеямі на сябе ў вытрымцы і добрай руплівасьці.*

*З новымі сябрамі ў новых шэрагах неабыякавых грамадзянаў, для якіх не пустымі ёсьць словы Бацькаўшчына і Свабода, Дэмакратыя і Прыстойнасьць.*

*З вольнай Беларусьсю-2001!*

***Ваш "Тыднёвік"***

**Дз.АБАДОЎСКІ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ**

## Вяртаньню ў камэру пярэчаць лекары

***На 11-ыя суткі сухой галадоўкі адміністрацыя магілеўскага сьледчага ізалятара №4 прыняла рашэньне зьмясьціць зьняволенага Дзьмітрыя Абадоўскага ў рэанімацыю.***

Нагадаем, што сын вядомага ў рэгіёне праваабаронцы Сяргея Абадоўскага больш за паўтары гады ўтрымліваецца пад сьледзтвам і, адпаведна, за кратамі, нягледзячы на тое, што прысуд па яго справе быў адменены.

Дзьмітры лічыць, што яго і сям'ю перасьледуюць не з-за нібыта ўчыненага ім (і недаказанага на судзе) злачынства, а за нежаданую для ўладаў грамадзкую дзейнасьць бацькі і ўласную спрычыненасьць да яе ў часе леташніх "альтэрнатыўных прэзыдэнцкіх выбараў". Зьдзекі, якім ён падвяргаўся за кратамі, вымусілі яго пайсьці на крайнюю меру ў дачыненьні свайго здароўя і, магчыма, жыцьця.

Было нялёгка пераканаць хлопца ў неабходнасьці выхаду з галадоўкі. Яго адвезьлі ў рэанімацыйнае аддзяленьне абласной лякарні, дзе ў наручніках і пад аховай трох міліцыянтаў, як сьведчыць бацька і адначасна ягоны адвакат, падключылі да адпаведнага апарату і праводзяць неабходныя мэдычныя мерапрыемствы.

На сёньняшні дзень рэдакцыя мае зьвесткі аб тым, што адміністрацыя турэмнай установы намагаецца хутчэй вярнуць (яшчэ поўнасьцю бездапаможнага) хлопца ў камэру, аднак лекары пакуль гэтаму пярэчаць.

Тым часам сям'я Абадоўскіх атрымала Ліст падтрымкі ад вядомага расейскага праваабаронцы, дэпутата Дзярждумы Сяргея Кавалёва і ягоных паплечнікаў у справе змаганьня за правы чалавека. Турэмны пакутнік савецкіх часоў за свае дэмакратычныя погляды, С.Кавалёў паведаміў таксама, што будзе імкнуцца скарыстаць трыбуну ДзяржДумы для інфармаваньня расейскай грамадзкасьці аб факце грубага парушэньня правоў чалавека і нормаў гуманнасьці, якія ўчыняюць над беларускім хлопцам Д.Абадоўскім мясцовыя адміністратыўныя органы.

***Уласная інфармацыя***

**ЗА КУЛІСАМІ ПАЛІТЫКІ**

## Да прабачэньняў не дайшло

***У Міністэрстве замежных справаў адбылася сустрэча міністра М.Хвастова з кіраўніком КНГ АБСЭ ў Беларусі Гансам-Георгам Вікам. Як гаворыцца ў паведамленьні для прэсы, "у ходзе сустрэчы... ўвага сп.Віка была зьвернутая на неабходнасьць ажыцьцяўленьня дзейнасьці місіі ў строгай адпаведнасьці з вызначаным ёй мандатам".***

Сустрэча двух дыпламатаў праходзіла за зачыненымі дзьвярыма, фактычна тэт-а-тэт. Бакі практычна не камэнтавалі падзею. Пра што дакладна вядома, – амбасадар Вік зьвярнуўся з прапановаю такой сустрэчы яшчэ на па-за мінулым тыдні, падчас актыўнай кампаніі нападкаў у афіцыйных беларускіх СМІ на місію АБСЭ. А згоду на яе міністар даў значна пазьней, менавіта ў той дзень, як да абвінавачваньняў сп.Віка "у падрыўной дзейнасьці" далучыўся з трыбуны паседжаньня "верхняй палаты" Лукашэнка.

Відаць, наверсе ўсё ж вырашылі, што міністру трэба неяк зьмягчыць сытуацыю. Такая практыка, дарэчы, існуе ў нашай краіне ўвесь час: Лукашэнка нападае – міністры атаку вымушаныя прыцішаць.

Чаму ж столькі нападкаў вылілася нядаўна на АБСЭ? Па меркаваньні аглядальнікаў, Лукашэнка ня можа дараваць сп.Віку ягонага адмоўнага стаўленьня да працэсу і вынікаў нашых парлямэнцкіх выбараў. Місія АБСЭ ў сваіх высновах спасылаецца на больш, чым 3 тыс. актаў незалежных назіральнікаў за выбарамі, у якіх адзначаныя грубыя парушэньні без таго недасканалага заканадаўства (дарэчы, улады афіцыйна ніводзін акт не абверглі). А наперадзе ж выбары прэзыдэнцкія...

Тым часам місія АБСЭ ў Менску на 15 студзеня прызначыла афіцыйны прыём з нагоды 25-годзьдзя заснаваньня арганізацыі і свайго трохгадовага знаходжаньня ў Беларусі.

***Уладзімер ГЛОД***

# Беларускі Каляндар на 2001 год





## Студзень

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

## Люты

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | | | | |

## Сакавік

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | |

## Красавік

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | | | | | | |

## Травень

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

## Чэрвень

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | |

## Ліпень

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

## Жнівень

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

## Верасень

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

## Кастрычнік

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

## Лістапад

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | |

## Сьнежань

| Пн | Ат | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | | | | | | |

***Галоўныя Хрысьціянскія сьвяты:*** 6-7 студзеня – Праваслаўныя Каляды; 15 красавіка – Вялікдзень (супадае ў абодвух канфэсіях); 2 лістапада – Дзяды; 24-25 сьнежня – Каталіцкія Каляды.

***Галоўныя Беларускія сьвяты:*** 25 сакавіка – Дзень Волі; 15 ліпеня – Грунвальд; 27 ліпеня – Дзень прыняцьця Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусі; 8 верасьня – Дзень Беларускай вайсковай славы; 27 лістапада – Дзень Герояў (Слуцкі Збройны Чын).

***Нацыянальны Дзень жалобы і смутку*** – 26 красавіка (Чарнобыль).



## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Горак



***Мясцовая Асацыяцыя ўстойлівага разьвіцьця правяла чарговую акцыю, прысьвечаную здароваму спосабу жыцьця.***

Старшыня савету мэнэджэраў Аляксандар Шчур гутарыў з моладзьдзю аб шкоднасьці паленьня і алькаголю ў зусім незвычайным месцы – трупярні. Прысутныя мелі ўнікальную магчымасьць патрымаць у руках лёгкія курыльшчыка са стажам і пачуць шамаценьне, калі ламаюцца насычаныя смоламі ашклянелыя мікраскапічныя сасуды. Таксама маладыя людзі змаглі параўнаць дэфармаваную печань і сапсаваны мозг п'яніцы з органамі здаровага чалавека.

***23 сьнежня ў Горках адбыўся конкурс Дзедаў Марозаў і Сьнягурак. Праз увесь горад парадам прайшлі доўгачаканыя госьці з Поўначы.***

Рэакцыя назіраючых за шэсьцем была неадназначная: адны весела ўсьміхаліся, іншыя глядзелі зь вялікай іроніяй. І сапраўды: вельмі жалка выглядалі "гаспадары зімовых сьвятаў". Складалася ўражаньне, што яны сапраўды прыйшлі пешшу аж з Ляпландыі. Можа, таму іх, змучаных, суправаджаў аўтобус, які мае ў горадзе невясёлую назву – катафалк.

Наогул, сэнс гэтага конкурсу застаўся незразумелым для ўсіх, а асабліва для саміх удзельнікаў. Узнагароды, якія заўсёды стымулююць усе спаборніцтвы, арганізатарамі конкурса нават не прадугледжваліся...

***Дзьве цёткі ВЕРЫ***

### ...з Шклову

***"Магілёўэнэрга" выставіла раёну і асабліва калгасам і саўгасам рахунак на пакрыцьцё запазычанасьці за электрычнасьць.***

Яна складае больш за 1 млн. руб. Аднак плаціць гаспадаркам няма чым. Не саступаюць і энэргэтыкі. Як вырашыцца канфлікт, пакуль невядома. А тым часам насьпявае напружаньне ў калідорах бюджэтных арганізацыяў. Служачым ня выплацілі абяцанага авансу. На запыты ў райвыканкам, адтуль сярдзіта адказваюць, што таварыш Агееў (старшыня райвыканкаму) "грошы не выдае".

***Пажарная інспэкцыя правяла рэйд па гандлёвых шапіках з мэтай выяўленьня небясьпечных навагодніх забавак.***

Інспэктары загадалі тым, хто гандлюе пэтардамі і фэйервэркамі, тэрмінова займець тушыльнікі агню. На тым справа й скончылася.

***Аляксандар ШЧАРБАК***

## НОВЫ ПРАЕКТ БЕЛАРУСКАЙ СЛУЖБЫ РАДЫЁ "СВАБОДА"

# Верш на свабоду

На пачатку стагодзьдзя першая беларуская паэтка пісала "Хрэст на свабоду"; у сярэдзіне стагодзьдзя пазыўныя беларускай службы радыё "Вызваленьне" адкрываліся радкамі першага паэта нацыі "Свабоднае слова ты, роднае слова!"

На пачатку новага стагодзьдзя мы зьвяртаемся да нашых слухачоў – усіх, хто даражыць свабодай, любіць вольнае слова: стварыць новую анталёгію вершаў пра свабоду, за якую беларусы змагаліся ў мінулыя вякі, безь якой немагчыма годна ўвайсьці ў XXI стагодзьдзе.

У этэры будуць гучаць толькі новыя творы, напісаныя спэцыяльна для гэтай перадачы. Шліце вашыя вершы на адрас: Менск-5, паштовая скрынка 111, а таксама ў рэдакцыю газэты "Наша Ніва": 220050, Менск, а/с 537. Пазначайце зваротны адрас і тэлефон.

Новыя вершы волі – год 2001-шы, штодня, хвалі "Свабоды".

Беларускія паэты – пра свабоду – на "Свабодзе" – дзеля свабоды.

## ЛІСТ ДА БАЦЬКОЎ

# "Тут усім на ўсё напляваць..."

***Знаёмы чытач газэты паказаў нам ліст ад сына сярэдняга школьнага ўзросту, які праводзіць сьнежань у знакамітым лягеры "Зубронак". Сшыткавы акрушак у клетку на абодвух баках сьпісаны, ня надта роўным і ўпэўненым почыркам, кранальнымі словамі, якія ўсхвалявалі тату з мамай. Аднак нам падалося, што лягерны ліст закране й нашых чытачоў. Бацькі пагадзіліся на ягонае друкаваньне пры ўмове, зразумела, ананімнасьці. Тое й робім (дзе-нідзе расставіўшы знакі прыпынку, зь якімі ў хлопчыка вядавочныя непаразуменьні, і пераклаўшы ліст з расейскай).***

"Пішу вам, дарагія родныя, зь піянэрскага лягеру "Зубронак". Першы мой ліст атрымаўся занадта эмацыйным. А зараз эмоцыі ўлягліся. На ўсё можна паглядзець больш спакойна. "Зубронак" можа і лічыцца рэспубліканскім, але на самой справе на тое ня цягне. Умовы пражываньня амаль нулявыя, па меншай меры ў нашым корпусе. Кормяць дрэнна, зрэдку можна зьесьці смажанай каўбасы зь пюрэ. Выжыць можна толькі дзякуючы грошам і краме. Усё вельмі дарага, амаль з кожнай рэчы імкнуцца садраць па максымуму. Школа вельмі строгая, але без прыдзі-



рак. Знаеш, дык знаеш, не – дык не. Усё вельмі проста...

Шмат піянэраў, больш за палову ад усіх. Калі зь імі размаўляеш аб прычыне ўступленьня ў піянэры, яны гавораць, што прычынай зьяўляецца націск з боку школы. Перадавыя піянэры езьдзяць сюды ўжо па 11-му разу. Праўда, для мяне вялікая нечаканасьць – я знайшоў тут аднадумцаў па ідэалёгіі. Многія важатыя за тое ж, што і мы. Хаця тут усім на ўсё напляваць. Цяжка прызнаваць, але гэта так. Шмат выпадковых людзей. Правілы тут дурныя, яўна з часоў піянэраў, калі ўсе без пытаньняў выконвалі ўсё. Цяпер людзі іншыя. Увогуле ўсё весела. Толькі цяжка.

Ліст ваш атрымаў. У мяне адклеіўся бацінак (падэшва), але клею тут не прадаюць.

Я вельмі па ўсіх сумую. І хачу дамоў. У мяне засталося на 12 дзён пяць тысяч. Але мы магілёўскія, мы прарвемся!

14.12. 2000

P.S. Мы занялі 6 месца па брэйну. І 10 месца па "Што? Дзе? Калі?". Сярод 28-мі камандаў.

P.S.S. Вельмі сумую па бабуліных блінчыках".

## ЛЕПШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯСЯТКА 90-Х

# Слухай сваё!



***Наш аўтар Алесь Асіпцоў прапанаваў "ТМ" зьмясьціць кароткі пералік ці, па-іншаму, гіт-парад 9-ці лепшых на ягоную думку беларускіх музычных гуртоў 1990-х гадоў. Справа ў тым, што рубрыка, якую ён вёў на бачынах газэты на працягу некалькіх месяцаў адыходзячага году, прыцягнула вялікую ўвагу нашых чытачоў, асабліва маладых. Арыгінальнасьць сёньняшняга ж матэрыялу ў тым, што спадар Алесь вырашыў на дзясятае месца нікога ня ставіць. Кожны чытач можа сам для сябе вырашыць, які яшчэ музычны калектыў ён залічыў бы ў першую дзясятку апошняга беларускага дзесяцігодзьдзя. Здаецца, што шмат якія выканаўцы не патрапілі ў гэтыя сьпіс... Але на тое гэта й аўтарскі погляд на тэму – без суб'ектывізму тут не абыйсьціся.***

**Гурт "ULIS"** – легенда беларускага РОК-Н-РОЛу. Ці ня першая рок-н-рольная каманда на Беларусі, якая запісала на пачатку 90-х, яшчэ за савецкім часам, кружэлку "Чужаніца" на тады ўсім вядомай студыі "Мелодия". Несупынныя пошукі й ноўніцтвы ў гучаньні й стылі каманды робяць яе заўжды маладой. За час свайго існаваньня "ULIS" неаднойчы зьнікаў з музычнага алімпу, але нібыта птушка Фэнікс заўжды адраджаўся, неаднойчы зьмяняўся й склад каманды. Кампазыцыя "Радыё Свабода" у выкананьні "ULIS"у сталася гімнам беларускае моладзі 90-х. У нашым гіт-парадзе ULIS прадстаўлены "Пляцам Францыска" з ужо памянёнае кружэлкі "Чужаніца". Гурт "ULIS" і "Пляц Францыска" – на 1-ым месцы нашага гіт-параду.

**Гурт "NRM"** – Незалежная Рэспубліка Мроя ("Мроя" да 1994 году). Найстарэйшы гурт на Беларусі. Канцэрты гэтае каманды заўжды зьбіралі поўныя залі фэнаў. Бадай, няма больш калектыву на Беларусі, які мае столькі адданых прыхільнікаў сваёй творчасьці. Найвялікшым дасягненьнем музыкаў стаўся "Пашпарт". Гурт "NRM" з "Паветраным Шарам" – 2-ое месца.

**Гурт "Новае Неба"** – адзіная на Беларусі рок-н-рольная каманда, дзе лідэр жанчына – Кася Камоцкая. Уварваўшыся на рок-н-рольныя абшары Беларусі на пачатку 90-х, "Новае Неба" не расьцярушыла свае набыткі ў часе. Спэцыфічнасьць, адмысловасьць, шчырасьць і прынцыповасьць сталіся візытоўкай каманды. "Новае Неба" першым зь беларускіх гуртоў у 1999 годзе запісала CD – "Cepieliny". У нашым гіт-парадзе "Новае Неба" прадстаўлена песьняй "Ластаўка". Гурт "Новае Неба" з "Ластаўкай" – 3-яе месца.

**Гурт "Крама"**, спадкаемца легендарнае "Бонды", увабраў у сябе традыцыі беларускага рок-н-ролу канца 70-х- пачатку 80-х гадоў. Крэда каманды можна акрэсьліць як рок-н-рол і блюз заўжды. Сымбалям "Крамы" сталася Беларускае Піва. Калі слухаеш каманду, узгадваеш сярэдзіну 90-х – Рок-Купальле зь "Беларускай Маладзёжнай" і адносную заможнасьць тагачаснае Беларусі зь фірмай "Дайнова", фундатара не аднаго моладзевага фэсту па-беларуску. Гурт "Крама" і "Будзь разам з намі" – на 4-ым месцы гіт-параду 90-х.

**Гурт "Мясцовы Час"** – полацкая каманда, якая на пачатку свае музычнае дзейнасьці сьпявала па-руску. Зрабіўшы некалькі канцэртовых тураў па Беларусі, полацкія музыкі зразумелі сваё бліжэй. У дужа складаных умовах "Мясцовы Час" адваяваў сваё месца пад рок-н-рольным сонцам 90-х. "Мясцовы час" і "Мой дом" – 5-ае месца гіт-параду.

**Гурт "Палац"**. Стараведчына й сучаснасьць, апрацаваны фальклёр і мадэрн – два ў вадным. Рэпрэзэнтантаў беларускае аўтэнтыкі слухаюць усе, іхны стыль выкананьня даспадобы ўсім. Гурт "Палац" са сваім "Кавалём" – 6-ае месца.

**Гурт "Крыві"**. Стыль выкананьня кампазыцыяў спалучае ў сябе электронныя аранжыроўкі з жывым гучаньнем народных мэлёдыяў. Вялікая колькасьць канцэртаў "Крыві" зладзіла за мяжой. Гурт "Крыві" і "За туманам" – 7-ае месца.

**Гурт "Троіца"** – найменей вядомая каманда на Беларусі, дарэчы, як і сама Беларусь для многіх з нас. Нешта старадаўняе, нешта эўрапейскае, нешта надта блізкае й пакуль незразумелае. Цеплыня й подых таямніцы. Гурт "Троіца" са сваёй "Ягадай" – 8-ае месца.

**Гурт "Жыгімонт Ваза".** Віртуальнасьць існаваньня каманды ня ёсьць перашкодай да зьяўленьня ўсё новых і новых запісаў. Радыкалізм у вызначэньні ды акрэсьленьні пэўных падзеяў музыкамі часам пужае, але мы – моладзь, таму Жыве Радыкалізм! Гурт "Жыгімонт Ваза" са сваім працоўным месцам на "Камбінаце" – 9-ае месца нашага гіт-параду.

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.

Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 51 Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 28.12.2000 г. а 17.05.